# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№7(11)
ЛІПЕНЬ
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

■ *ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЦЁТКІ (АЛАІЗЫ ПАШКЕВІЧ)*

**“Цётка як бы аб’ядноўвала ў сабе двух выдатных жанчын нашай старажытнасці: Рагнеду і Ефрасінню Полацкую. Як першая, яна была барацьбітом за волю радзімы і, як другая —асветніцай свайго народу”.**

Мікола Ермаловіч

## ДЗЯКУЙ ТАБЕ, МАЦЕЙ БУРАЧОК!



Мастак Ю. Растоўцаў. Цётка

“Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам, бо слова тутэйшы мне нексць не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на адну, то на другую сторану, аж покі не папала ў мае рукі “Дудка” Мацея Бурачка; яна то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыцца, ён гаворыць па-беларуску, а хто гаворыць па-беларуску, той беларус. Прачытаўшы тую “Дудку”, я сказаў: “Дзякуй табе , Мацей Бурачок! Чэсць і слава твайму слову! А ты, “Дудка”, грай і мне голас дай. З таго дня пачаў і я майстраваць інструмент. Выйшла з-пад рук “Скрыпка”…

***(З прадмовы Цёткі да свайго зборніка “Скрыпка беларуская”).***

## СУСЕДЗЯМ У НЯВОЛІ

Ад сваіх хат, ад сваіх ніў,
Ад усіх братоў, хто толькі жыў,
Нясу слязу, нясу я стогн,
Нясу нагаек царскіх звон.

У нас там ноч, у нас там стук,
Мы ацямнелі з страшных мук,
З нас пот ліецца, сохнуць грудзі.
Нас катуюць! Чуйце, людзі!

Чуйце, чуйце, руку дайце!
Мы вам родны. Праўду знайце:
Ці у долі, ці ў нядолі –
З вамі станем ў адным полі.

Рука ў руку з вашым братам
За свабоду перад катам.

1906

**(Працяг тэмы на 4-й – 7-й стар.)**

## Гродна, 5 ліпеня…

“Сучасны стан і перспектывы школьнага краязнаўства” – такая тэма паседжання пашыранай Рады Згуртавання школьных краязнаўцаў. Паседжанне адбудзецца 5-га ліпеня на базе гродзенскага ліцэя № 1.

Зацікаўленых асобаў просім звяртацца да старшыні Рады Згуртавання школьных краязнаўцаў сп. Аляксандра Пятровіча Госцева.

Тэлефон у Гродне 72-12-64.

## КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ДЗЯТЛАВА

11 чэрвеня больш як 20 зацікаўленых асобаў з устаноў адукацыі і культуры Дзятлава, краязнаўцаў і аматараў турызму з г.п. Наваельня прынялі ўдзел ва ўстаноўчай канферэнцыі краязнаўцаў.

Да прысутных звярнуўся старшыня Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі прафесар Андрэй Майсяёнак. Пасля зацікаўленай дыскусіі, у якой бралі слова дырэктар Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея Ф.Красюк, старэйшы краязнаўца У.Данільчык, настаўнік СШ № 3 В.Петрыкевіч, загадчык аддзела абслугоўвання і інфармацыі раённай бібліятэкі Л.Шыцько сход падтрымаў рашэнне аб стварэнні Дзятлаўскага краязнаўчага таварыства як раённага аддзялення Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута.

Старшынёй рэгіянальнага аддзялення абраны В.М.Петрыкевіч. У склад рады таксама ўвайшлі Ф.Ф.Красюк, Т.У.Крывеня, Ж.С.Нагавонская, Л.І.Шыцько.

### СТАРШЫНЯ ТАВАРЫСТВА



**Петрыкевіч Валеры Міхайлавіч** нарадзіўся 6.10.1946 г. на Навагрудчыне. Настаўнік фізкультуры СШ № 3 г. Дзятлава.

Актывіст музейнай справы і спартыўнага турызму. Удзельнічаў у зборы матэрыялу для Валеўскага народнага музея, Дзятлаўскага музея народнай Славы, краязнаўчага музея Дзятлаўскай СШ № 1.

Заснавальнік і кіраўнік турысцка-краязнаўчых гурткоў. Распрацоўвае водныя турысцкія шляхі на Прынямонні, вывучае гісторыю вадзяных млыноў. Аўтар шэрагу публікацый у “Настаўніцкай газеце”, раённай газеце.

■ АСОБЫ НАДНЁМАНСКАГА КРАЮ

# НАШ ЧАЛАВЕК У САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ

*Штогод у красавіку доктар філалагічных навук па спецыяльнасці "Кнігазнаўства" Мікалай Віктаравіч Нікалаеў прыязджае на два тыдні з Санкт-Пецярбурга ў Гродна па запрашэнню кафедры беларускай літаратуры мясцовага універсітэта імя Янкі Купалы. Яго лекцыі па спецкурсу "Кніжная культура Беларусі" слухаюць студэнты філалагічнага і гістарычнага факультэтаў...*

Па шчыраму прызнанню вучонага, дні, праведзеныя ў Гродне, становяцца сапраўднай асалодай для чалавека, які нарадзіўся ў беларускім горадзе Шчучыне, закончыў школу ў Навагрудку, а затым вось ужо 25 гадоў жыве ў Ленінградзе-Санкт-Пецярбургу.

— Ведаеце, нідзе так увачавідкі не бачу надыход вясны, як тут, на радзіме. У вялікім горадзе гэта немагчыма. Бетон, асфальт, подых марскіх вятроў неяк сціраюць акрэсленыя прыродай грані паміж зімой і вясной. На Гродзеншчыне гэта ўспрымаецца зусім інакш. У Санкт-Пецярбург цяпло прыходзіць пазней.

Яму можа пазайздросціць кожны беларус, які жыве на чужыне: дзевяць гадоў чалавек наведвае роднае котлішча, няхай сабе нават загружаны пад завязку работай. Мікалай Віктаравіч не марнуе час. Абавязкова наведае аддзел рэдкіх кніг і старадрукаў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, пацікавіцца ў загадчыцы Ванды Шоцік новымі набыткамі, паведаміць пра свае знаходкі. Не абміне вядомых краязнаўцаў, напрыклад, доктара біялагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта НАН, сябра праўлення БФК, старшыню абласной краязнаўчай асацыяцыі Андрэя Майсяёнка...

Школьнік з Навагрудка Мікалай Нікалаеў адразу зацікавіўся раскопкамі ў сваім старажытным горадзе, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам вядомага ленінградскага археолага Фрыды Давыдаўны Гурэвіч. Хлопец ахвотна дапамагаў. Яму давяралі ўсё больш адказную працу. Работа цягнулася шмат гадоў, а па заканчэнні школы юнак паступіў вучыцца на гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта, які закончыў у 1977 годзе.

У аспірантуру пры АН Беларусі не трапіў. Знайшлася на гэтае месца іншая асоба, сталічная, з уплывовым бацькам. А Нікалаеў па ўласнай згодзе паехаў настаўнічаць у Пастаўскі раён. Ёсць там вёска Лукашава. Двароў няшмат, але са школай. Сюды на вучобу збіралася дзятва з усіх навакольных паселішчаў. Выкладаць даводзілася не толькі гісторыю, але і іншыя прадметы, бо настаўніцкі штат не быў запоўнены.

Відаць, лёсам было наканавана, што Мікалай так ці інакш апынецца ў Ленінградзе. Працавала там па размеркаванні пасля заканчэння ВНУ знаёмая дзяўчына Наташа, мадэльер па абутку. Адным словам, пажаніліся. Маладыя займелі ўласны пакой у інтэрнаце. Складаней было з работай для Мікалая. Дапамаглі старыя знаёмыя. Уладкаваўся ў аддзел рукапісаў рэдкай кнігі дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына. Цяпер яна называецца інакш – Расійская Нацыянальная бібліятэка.

— Гэта гонар Расіі. Былая імператарская бібліятэка заўсёды мела акадэмічны кірунак. Тут традыцыйна займаліся навукай. Ёсць свае дактары навук, каля сотні кандыдатаў. Сярод іх не займацца даследаваннямі сорамна. Тым больш, умовы для гэтага вельмі спрыяльныя.

Такога багацця старадрукаў ён ніколі не бачыў. Перагарнуў некалькі фаліянтаў, паглядзеў гравюры – і задумаўся. Перад вачыма былі падзеі старажытнай роднай Беларусі, адлюстраваныя невядомымі мастакамі ў малюнках, ілюстрацыях і аздобленыя тэкстам. Калі пачаў унікаць глыбей, пераканаўся, што на радзіме пра гэта не ведаюць. Тады і вырашыў: вяртаць Беларусі яе гістарычную памяць. Выдатна захавалася "Полацкае Евангелле", "Тураўскае Евангелле". Такое ж ёсць у Вільні, але там засталося ўсяго 12 старонак. Іншыя рарытэты маюць многа ілюстрацый. Напрыклад, адна з кніг 18-га стагоддзя ўтрымлівае выяву касцёла ў Клецку і тэкставаную інфармацыю. Ілюстрацыі 10-га – 13-га стагоддзяў выконваліся полацкімі майстрамі па нямецкай тэхналогіі: з выкарыстаннем золата і срэбра.

Першымі друкаванымі работамі сталі выданні "Рукапісныя кнігі ВКЛ", "Старадрукаваныя кнігі ВКЛ". Хутка павінен выйсці зборнік "Кніжная культура ВКЛ", у якой будзе змешчана каля 300 ілюстрацый, практычна невядомых у Беларусі, са старадрукаў і рукапісаў 12-га — 18-га стагоддзяў.

— 90 працэнтаў маіх публікацый з'яўляецца на беларускай мове. Я з сям'і вайскоўцаў, вырас у ваенным гарадку. Бацька быў ваенным лётчыкам, служыў у Шчучыне. У Навагрудку мне, васьмікласніку, трапіла ў рукі старое выданне кнігі Вацлава Ластоўскага "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі". Неяк і Фрыда Давыдаўна Гурэвіч папрасіла зрабіць пераклад яе артыкула ў навагрудскую раённую газету "Новае жыццё". Думаў напачатку, што гэта так проста. Прызнацца, што не здолею, было сорамна. Прамучыўся некалькі дзён, са слоўнікамі працаваў, але зрабіў справу. Экзамены ў школе здаваў на роднай мове. Беларускім студэнтам лекцыі чытаю таксама па-беларуску, польскім – па-польску.

Беларусаў у Санкт-Пецярбургу напачатку 90-х было каля 95 тысяч. Ёсць "Беларускае грамадска-культурнае таварыства" на чале з гісторыкам і палітыкам Валянцінам Грыцкевічам. Мікалай Нікалаеў абраны намеснікам старшыні Рады. Паседжанні наведваюць рабочыя, пісьменнікі, напрыклад, паэтэса Аўгіння Кавалюк. Санкт-Пецярбургскія беларусы прымаюць актыўны ўдзел у рабоце Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, падтрымліваюць цесную сувязь з Адамам Мальдзісам.

— У бліжэйшай будучыні думаю зрабіць адбіткі ўсіх беларускіх газет дарэвалюцыйнага часу. Калі знойдуцца спонсары, каб аплаціць работу, буду шчыра ўдзячны. Гэтыя газеты патрэбны навукоўцам і краязнаўцам Беларусі.

Цяпер Мікалай Віктаравіч Нікалаеў працуе загадчыкам аддзела газет РНБ у Санкт-Пецярбургу, з'яўляецца сябрам вучонага савета бібліятэкі.

**Антон Лабовіч**

# АЛЯКСАНДРУ ШЫДЛОЎСКАМУ – 90



*Нашы продкі пакінулі нам вельмі багатую духоўную спадчыну. Беларусь - гэта адна з краін, дзе найбольш захавалася фальклорнае мастацтва: песні, танцы, гульні, самабытныя абрады (вяселле, Купалле, дажынкі, Каляды, валачобнікі, Юр'е і інш.). Тут вельмі ярка праяўляюцца народныя таленты - спевакі, музыканты, танцоры, дэкламатары...*

*Як кожны народ, беларускі – жыве, развіваецца, і ніколі не спыняецца яго духоўная творчасць. І сёння вельмі шмат людзей, якія маюць музычнае пачуццё, складаюць песні. Гэта - кампазітары-песеннікі, шматлікія музыканты. Паколькі самадзейныя аўтары сучасных песень знаходзяцца бліжэй да чалавека з "глыбінкі", іх песні прасякнуты народнымі інтанацыямі. З часам многія з гэтых твораў становяцца народнымі...*

*Цудоўныя беларускія народныя і прыгожыя сучасныя меладычныя песні дапамагаюць захаваць нашу самабытнасць, мову, культуру. Калі спявае народ - гэта прызнак таго, што ён жыве. Няхай жа не змаўкаюць песні!*

***Аляксандр Шыдлоўскі***

## ТАЛЕНТ ПАЭТА І КАМПАЗІТАРА

Аляксандр Канстанцінавіч Шыдлоўскі нарадзіўся 18 чэрвеня 1911 г. у в. Мінкі, што на Смаргоншчыне. Зведаў горкі хлеб бежанства, жывучы ў Сімбірску.

У 1921 г. сям'я вяртаецца на радзіму. Доўгі час адзіным прытулкам была зямлянка. Аляксандр вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, але быў выключаны за ўдзел у студэнцкай забастоўцы. Такі ж лёс напаткаў яго і ў час вучобы ў Клецкай беларускай гімназіі (1929).

Юнак удзельнічаў у рабоча-сялянскім клубе "Змаганне", працаваў інструктарам Віленскага акруговага камітэта КСМЗБ.У 1930 г. быў дэлегатам сялянскага кангрэсу моладзі ў Берліне. За свае палітычныя пераканнні сядзеў у турмах тагачаснай Польшчы (1930, 1936, 1937). Быў пазбаўлены на 10 гадоў грамадзянскіх правоў. Працаваў на земляных работах, грузчыкам, будаўніком у Варшаве.

У верасні 1939 г. вярнуўся ў бацькоўскую хату. У 1940 г. Рыгор Шырма запрасіў яго ў Беларускі дзяржаўны ансамбль песні і танца ў якасці спевака. Вайну сустрэў у час гастролей у Арле. Выступаў на прызыўных пунктах Масквы, Краснаярска, Новасібірска, рэспублік Сярэдняй Азіі. У 1944 г. выступаў перад байцамі 1-га і 2-га Беларускіх франтоў, жыхарамі Гомеля, Мінска, Гродна. У ансамблі знайшоў сваю жонку – Барбару Яфімаўну. Разам выхавалі трох дзяцей.

У 1950 г. Аляксандр Шыдлоўскі закончыў Маскоўскі універсітэт імя М.В.Ламаносава. Выкладаў гісторыю ў гродзенскай СШ № 3, кіраваў вучнёўскім хорам, ствараў у горадзе харавыя калектывы. У 1960 г. атрымаў званне Заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Быў дырэктарам абласнога Дома народнай творчасці (1960 –1971). Адкрыў першы на Беларусі музей народнай творчасці.

Напісаў больш за 200 песень. Свой першы зборнік выдаў у 1964 г.

**Зінаіда Арцюховіч**

## ЖЫЦЦЁ, КРЫЛАТАЕ, ЯК ПЕСНЯ...

Сярод ганаровых грамадзян горада Гродна Заслужаны дзеяч культуры Беларусі, кампазітар, педагог, дзеяч самадзейнага мастацтва Аляксандр Шыдлоўскі займае сваё пачэснае месца.

18 чэрвеня 2001 года Аляксандр Канстанцінавіч адзначыў 90-годдзе з дня нараджэння. У гарадскім Доме культуры сабраліся прыхільнікі яго таленту. У фае была разгорнута фотавыстаўка аб жыцці і творчасці юбіляра.

Гучалі найбольш папулярныя амаль з 200 песняў, напісаных самадзейным кампазітарам, асабліва — "Колькі ў небе зораў", "Нёман", "Прывітальная", "Ой, зайграйце музыкі!". Адзначалася, што гродзенскія прафесійныя і аматарскія калектывы данеслі іх мелодыі да слухачоў Грэцыі, Польшчы, Германіі, Шры Ланкі, Іспаніі.

На адрас Аляксандра Канстанцінавіча гучала шмат удзячных слоў ад прадстаўнікоў абл-і гарвыканкамаў, многіх раёнаў Гродзеншчыны. Тэлеграму з віншаваннем даслаў міністр культуры Беларусі Леанід Гуляка.

**Сцяпан Ярашчук**

## НЕ ЗМАЎКАЙЦЕ, НАРОДНЫЯ ПЕСНІ!

Да 90-гадовага юбілею Заслужанага дзеяча культуры Беларусі Аляксандра Шыдлоўскага абласны метадычны цэнтр народнай творчасці паруліўся надрукаваць зборнік песень гэтага аўтара "О, Беларусь!". Змешчана 13 твораў. Словы і музыку да іншых напісаў сам Аляксандр Канстанцінавіч ("О, Беларусь!", "Песня пра Каложу", "Нам трэба вучыцца").

Ёсць песні на яго словы ("Рэспубліка Беларусь", "Беларусь мая", "Спявайма, сябры дарагія!", "Там, дзе ціха-ціха...", "Чорныя вочкі", "Пад акном рабіна стаяла").

Да некаторых работ самадзейны кампазітар напісаў музыку ("Два арлы", словы Максіма Танка, "Песня пра Лявона", словы Янкі Купалы, "Ты зорка мая залатая", словы Апанаса Цыхуна, "Мне не абняць прастораў краю", словы А.Шыдлоўскага і А.Цыхуна).

Зборнік песень рэкамендаваны калектывам мастацкай самадзейнасці. Шкада толькі, што брашура выдадзена накладам усяго 70 экземпляраў.

**Антон Лабовіч**

# "ЯК ЗГІНУ — НЕ ШКАДУЙЦЕ..."

■ ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЦЁТКІ (АЛАІЗЫ ПАШКЕВІЧ)




Цётка (Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна). Нар. 15.7.1876 у фальварку Пешчын Шчучынскага р-на – 17.2.1916. Першая беларуская паэтэса 20-га ст. Скончыла Віленскае 7-класнае вучылішча (1902), курсы П.Лесгафта ў СПБ. Адна з заснавальніц Беларускай сацыялістычнай Грамады. На яе кватэры ладзіліся канферэнцыі. Экстэрнам здала экзамены за курс Аляксандраўскай жаночай гімназіі ў СПБ.

У Вільні працавала ў Нова-Віленскай бальніцы, арганізоўвала рабочыя рэвалюцыйныя гурткі, пісала і распаўсюджвала рэвалюцыйныя пракламацыі. Партыйная клічка "Цётка" стала літаратурным псеўданімам. Ананімна былі выдадзены яе вершы – шэдэўры рэвалюцыйна-агітацыйнай паэзіі "Хрэст на свабоду", "Мора", "Пад штандарам". Прымала ўдзел у жаночым з'ездзе ў Маскве. У 1905 г. у Вільні пазнаёмілася з Элізай Ажэшкай. Эмігрыравала ў Галіцыю (Аўстра-Венгрыя), вучылася на філасофскім ф-це Львоўскага ун-та. У 1906 г. у Жоўкве каля Львова надрукавала зборнікі вершаў "Хрэст на свабоду" і "Скрыпка беларуская".

Нелегальна вярнулася на радзіму. Удзельнічала ў выданні газет "Наша доля", "Наша Ніва". Захварэла на сухоты і выехала ў Закапанэ (Польшча). У 1908 –1909 г. жыла ў Кракаве, вучылася на філасофскім ф-це Ягелонскага ун-та. Сябра арганізацыі рэвалюцыйнай моладзі "Спуйня". У 1911 г. выйшла замуж за літоўскага сацыяліста Сцяпана Кайрыса. З тэатрам І.Буйніцкага ездзіла па Беларусі як актрыса.

У 1914 г. рэдагавала ў Мінску часопіс для моладзі "Лучынка". Была сястрой міласэрнасці ў салдацкім тыфозным бараку ў Вільні. У гэтым жа годзе давялося зноў ехаць на лячэнне ў Фінляндыю і Швецыю.

У 1915 г. пабыла ў Гродне.

Пісаць пачала ў 1902 г. Аўтар першых кніг для дзяцей на беларускай мове — "Першае чытанне для дзяцей-беларусаў" (1906). Творы носяць гуманістычны характар, адчуваецца спачуванне чалавеку паднявольнай працы. Цётка не ўспрымала несправядлівасці, шырока прымяняла рэвалюцыйны пафас, метафарычнасць, алегорыю, сімволіку. Пісала публіцыстычныя артыкулы. Заклікала моладзь шанаваць родную мову, рыхтаваць сябе да грамадскай работы. Яе постаць на ўсім небасхіле беларускай паэзіі пачатку 20-га ст. велічная і прывабная.

Памерла 5 лютага 1916 г. ад тыфу. Пахавана ў вёсцы Стары Двор.

Ёй устаноўлены помнікі ў г.п. Астрына і ў вёсцы Шастакоўцы Шчучынскага р-на, у Шчучыне. У Гродне яе імя нададзена вуліцы, вучылішчу мастацтваў.

## 25 ГАДОЎ НАЗАД...

У 1976 г. святкаваўся 100-гадовы юбілей Цёткі. На радзіму паэткі прыехалі вядомыя беларускія пісьменнікі.

**На здымках: выступае Янка Брыль; Васіль Быкаў і Анатоль Вярцінскі.**





## СЛОВА ПРА ЦЁТКУ

"У сваю творчасць яна заўсёды ўкладала душу. Не заўсёды было ёй лёгка выказаць сваімі словамі перажыванні, пачуцці і думкі. Чарнавікі ейных друкаваных твораў паказваюць, што часта патрэбная была марудная праца, пакуль выражаныя думкі знаходзілі сабе адпаведную форму на паперы. Можа, дзеля гэтага Цётка не паспела стварыць гэтулькі, колькі абяцаў ейны, перажываннямі наздзіў багаты, нутраны свет".

**Сцяпан Кайрыс,**
**муж паэтэсы.**

***

"Як усе натуры, каторыя працуюць парывамі – выбухова, Цётка пачынала пісаць многа, але даводзіла да канца толькі нязначную частку распачатых прац. Цётка (...) цалкам вырастае з творчасці Багушэвіча".

**Антон Луцкевіч,**
**літаратар.**

***

"Мова Цёткі мае ў сабе паланізмы, прызвычаеныя беларусам Лідчыны, і русізмы, прышчэпленыя школаю.

Бо як на апрацаванне свае мовы, так і на шліфоўку верша Цётка за рэвалюцыйнаю працаю шкадавала часу".

**Максім Гарэцкі,**
**пісьменнік.**

***

"Гэта натура бурная, з моцным грамадскім і палітычным тэмпераментам. Для яе на першым плане заўсёды была работа грамадская і палітычная…

Для Цёткі паэзія з'яўляецца адлюстраваннем яе рэвалюцыйнага духу. Гэта перш за ўсё паэт, для якога матывы рэвалюцыі стаяць на першым плане. Яна пісала параўнаўча няшмат, часта задумвала і пачынала вялікія творы, але ў яе не хапала вытрымкі, часу і ўседлівасці для іх апрацоўкі і заканчэння. З другога боку, у яе творах, асабліва напісаных за мяжой, адчуваецца гарачая любоў да радзімы, паэтычнае пачуццё прыроды роднай краіны".

**Мітрафан Доўнар-Запольскі,**
**беларускі гістарыёграф.**

***

У вышэйшых класах віленскай прыватнай гімназіі Веры Міхайлаўны Поразавай разам з маёй старэйшай сястрой вучылася Алаіза Пашкевіч. Тады (1895 – 1905) быў час строгай русіфікацыі, нам было забаронена гутарыць на іншых мовах, акрамя расейскай. Сястра дапамагала Пашкевіч вывучаць французскую і нямецкую мовы. Алаіза жыла ў прадмесці ў знаёмых.

Аднойчы Алаіза, вучаніца 7-га класа, страціла прытомнасць у час лекцыі. Доктарка прызнала, што гэта ад недаядання. Сястра казала, што яна такая бедная, што не хапае грошай на яду. Але вельмі амбітная і не хоча прымаць помачы. Вучылася Алаіза старанна і Вера Міхайлаўна дамаглася, каб ёй далі стыпендыю.

Пашкевіч вылучалася сваім бледным, паважным тварам, які не бліставў свежасцю і красой маладосці, але які сваімі сур'ёзнымі вачыма, трохі выступаючымі скуламі казаў аб сіле і цвёрдасці характару. Да мяне яна мела асаблівую сімпатыю, бо я прыходзіла ў іх клас і дапамагала паўтараць арыфметыку.

У нашым доме яна была рэдкім госцем. Тлумачыла, што не мае часу, бо вымушана даваць лекцыі, каб зарабіць на сваё утрыманне. Мы яе лічылі за польку, бо яна была каталічка і ніколі ні слова не казала аб сваёй беларускасці і палітычных ідэалах.

У 1905 годзе я скончыла гімназію. Пачала цікавіцца модным тады сацыялістычным рухам. Чула, што Пашкевіч сталася сацыялісткай і далучылася да беларускага руху. І вось на адным мітынгу я пазнала Алаізу! Я ведала яе, як маламоўную, спакойную. А тут перад намі была аратарша, якая з вялікай сілай і перакананнем, усім сваім сэрцам будзіла ў слухачоў запал і любоў да прыгнечанага люду…

Аб яе жыцці ў Кракаве мне апавядала пані Алёна Бірыч, аднакласніца маёй сястры і Алаізы ў гімназіі. Пашкевіч з вялізнай энергіяй прабівала сабе шлях у жыццё. Пасля 1905 года яна ўцякла за граніцу без грошай і сама зарабляла сабе. У Пецярбургу таксама працавала і вучылася. Захаплялася думкай узгадаваць свой гаротны беларускі народ і праз тэатр. Брала лекцыі дэкламацыі, іграла ў вядомай польскай артысткі Нуны Маладзееўскай, і дасягала сваёй мэты. Здароўе ўжо тады мела слабае,назіраліся пачаткі сухотаў.

**Юліяна Вітан-Дубейкаўская**

# ЯЕ ВЕРШЫ ЧЫТАЛА МАСКВА…







Зборнік "Алоиза Тётка. Избранное" у перакладзе на рускую мову пабачыў свет у 1953 годзе ў маскоўскім дзяржвыдавецтве мастацкай літаратуры. У біяграфічнай даведцы тлумачыцца, што Цётка займае адметнае месца ў беларускай паэзіі. Яе творы друкаваліся ў рускіх часопісах і газетах, але цяпер выходзяць асобным выданнем.

Той час наклаў пэўны ідэалагічны адбітак. У тэксце можа прачытаць аб "негатыўным" уплыве на паэтэсу "буржуазна-ліберальнай газеты "Наша ніва", з якой Алаіза тады актыўна супрацоўнічала. Заўважана "некоторое снижение активных революционных настроений у Тётки в годы эмиграции и полулегальной жизни в России… появляются пессимистические мотивы… становится заметно культурничество".

Прадмову да беларускага падарункавага выдання "Цётка. Вершы", выдадзенага ў Мінску ў 1996 годзе, падрыхтаваў паэт Алег Лойка, народжаны на Слонімшчыне. Цёпла ўзгадвае ён нашу зямлячку, яе вершы і апавяданні, жыццёвы лёс, жаданне "каплю шчасця, долі ўліць, думаць усюды аб народзе". Тут не гаворыцца пра ўплыў на Цётку творчасці Горкага, Някрасава, Шаўчэнкі. Але адзначана роля Вільні і Санкт-Пецярбурга, Кракава і Мінска, жняяракпрацаўніц, любові да беларускага народа, яго моладзі, да Бацькаўшчыны ў росквіце таленту пісьменніцы.

**Сцяпан Ярашчук**

**На здымках: зборнік "Алоиза Тётка" (Масква, 1953); кніга "Цётка.Вершы" (Мінск, 1996).**

# АЛАІЗА ЦЁТКА

## (Штрыхі да творчага партрэта)

1902. Фальварак Лябёдка на Гродзеншчыне. Нелегальнае выданне Беларускай Рэвалюцыйнай Партыі "Свабода" змясціла беларускамоўны верш Цёткі "Мужыцкая доля". Увесь наклад знішчаны. Самымі раннімі яе вершамі лічацца "Лета", "Восень".

1903. Першыя друкаваныя творы змешчаны ў выданні "Круг беларускай народнай прасветы" (Пецярбург). Гэта верш "Мужык не змяніўся", "Нямаш, але будзе", "Музыкант беларускі".

1905. Беларуская рэвалюцыйная Грамада, Партыя польскіх сацыял-дэмакратаў і Польская сацыялістычная

(працяг на 6-й стар.)

(Праціяг. Пачатак на 5-й стар.)

партыя (у Вільні) у форме пракламацыі надрукавалі вершы Цёткі "Хрэст на свабоду", "Пад штандарам", "Мора". Яе ўдзел разам з К.Каганцом, братамі Луцкевічамі, А.Бурбісам, В.Іваноўскім, Я.Хлябцэвічам у рабоце нелегальнага з'езда Беларускай рэвалюцыйнай Грамады. Выданне ў Вільні кнігі Цёткі "Хрэст на свабоду".

1906. У Вільні выйшаў першы нумар газеты "Наша доля". Ініцыятары і рэдактары выдання браты Луцкевічы, Ф.Умястоўскі, Цётка. Яна змясціла першае апавяданне пад псеўданімам Мацей Крапіўка "Прысяга над крывавымі разорамі", верш "Наш палетак". Выданне кніг Цёткі "Першае чытанне для дзетак беларусаў", "Скрыпка беларуская", "Хрэст на свабоду (Вершы)".

1908. У газеце "Наша ніва" Цётка апублікавала апавяданне "Навагодні ліст".

1909. Выданне ў Вільні першага "Беларускага календара "Нашай нівы" на 1910 г. Разам з творамі Купалы, Коласа, Багдановіча, Гартнага, Ядвігін Ш., Паўловіча і інш. змешчаны таксама работы Цёткі.

1910. У Пецярбургу ў час правядзення беларускай вечарыны Цётка прачытала вершы "Мае думкі", "Грайка", "Родны кут". Яна надрукавала ў "Нашай ніве" справаздачу. Заснаваны "Беларускі музычна-драматычны гурток", у склад якога ўвайшлі Б.Даніловіч, В.Ластоўскі, браты Луцкевічы, Цётка, І.Буйніцкі. У Вільні ананімна выйшла кніга Цёткі "Праграма для збірання матэрыялаў аб батлейках на Беларусі".

1911. У віленскай друкарні М.Кухты выйшаў "Беларускі каляндар "Нашай нівы" на 1911 г. Змешчаны таксама творы Цёткі.

1912. У Пецярбургу выдадзены альманах "Маладая Беларусь". Тут змешчаны апавяданні Цёткі "Асеннія лісты", "Лішняя". У "Известиях общества славянской культуры" змешчана праца М.Янчука. У сціслым аглядзе найноўшай беларускай літаратуры высока ацэнена творчасць Коласа, Купалы, Цёткі, Багдановіча.

1913. У Пецярбургу выдадзены чарговы нумар часопіса "Маладая Беларусь". Змешчаны празаічныя творы Цёткі. У прадмесці Вільні адбылася маёўка. З прамовай выступілі Цётка, Бядуля, А.Луцкевіч.

1914. У Мінску выйшлі першыя нумары часопіса для дзяцей і юнацтва "Лучынка". Рэдактар Цётка. Надрукаваны яе творы —апавяданне "Міхалка", "Зваротлівыя", верш "Сірацінка", артыкулы "Папараць-кветка", "Успаміны з паездкі ў Фінляндыю". Выйшаў "Беларускі каляндар "Нашай нівы" на 1915 г. Змешчаны вершы Цёткі "З Новым годам", "Горсць пшаніцы".

1915. Намаганнямі Івана Луцкевіча і Цёткі ў Вільні адкрыты першыя беларускія настаўніцкія курсы. Завяршальны верш паэтычнай творчасці Цёткі "Адкрый, пані".

1916 год. 11 лютага — смерць Цёткі (Алаізы Пашкевіч).

1917. У зале Беларускага клуба (Вільня) прайшоў вечар, прысвечаны памяці Цёткі. Газета "Гоман" змясціла артыкул А.Луцкевіча "Памяці Цёткі. У гадавіну смерці)".



## ЖЫВЕ, ПАКУЛЬ ПАМЯТАЕМ



Памяць пра Цётку працягвае жыць. У Шчучыне ў 1996 г. устаноўлены адметны помнік пісьменніцы. Імя паэтэсы нададзена цэнтральнай раённай бібліятэцы.

**На здымках: урачыстае адкрыццё помніка; помнік Цётцы; у час адкрыцця памятнага знака на будынку Шчучынскай ЦРБ.**



## НЕ ЗАБЫВАЮЦЬ ЦЁТКУ МАСТАКІ...

Вобраз Цёткі даўно прыцягвае ўвагу беларускіх мастакоў. Яшчэ ў 1940 г. жывапісец Пётра Сергіевіч напісаў работу "У буру". Над выявай паэткі ў пасляваенны час працавалі скульптары З.Азгур, А.Заспіцкі, жывапісец А.Кроль.

Сёння кранаюць сваёй велічнасцю творы Л.Шчамялёва "У краі родным", А.Марачкіна – "Нас кавалі ў пламені...", І.Рэя – "З цэлым народам гутарку весці", Ф.Янушкевіча – "Роздум", П.Свентахоўскага – "Пачатак", Г.Вашчанкі – "Цётка", М.Апіёка – "Алаіза Пашкевіч", Л.Ду-

(Заканчэнне на 7-й стар.)



дарэнкі – "Купала і Цётка ў Вільні", партрэт, рэльеф і медальён скульптара С.Гарбуновай, графіка У.Басалыгі, М.Купавы, плакаты У.Крукоўскага, М.Стомы, памятныя медалі Р.Іва-нова, габелены Л.Пет-руль, чаканка У.Рамейкі...

**На здымках:**
І.П. Рэй. «З цэлым народам гутарку весці». 1976;
скульптар А.Заспіцкі. «Цётка (Алаіза Пашкевіч)». 1957.



## З ЛІСТА ДА ЦЁТКІ

Мы не замерлі для грамадства,
Не прадалі тваіх ідэй –
На ніве роднага мастацтва
Шчыруем плённа кожны дзень.

Рупліва кінутае зерне
Ўсходы дружныя дало –
З дарогі нас ніхто не зверне,
Жніво чакае нас, жніво...

Лучына сёлета не ў модзе—
Зямля ў неонавых агнях.
І нас вядзе цераз стагоддзі
Тваё славутае імя.

# "РУПЛІВА КІНУТАЕ ЗЕРНЕ..."

Гродзенская вучэльня мастацтваў з 1957 года носіць імя Цёткі. Да 125-годдзя з дня яе нараджэння калектыў выкладчыкаў і навучэнцаў падрыхтаваўся сур'ёзна. Яшчэ ў красавіку загадам дырэктара быў створаны арганізацыйны камітэт, у складзе якога рэжысёры, харэографы, мастакі, харавікі, літаратары і інш. Распрацаваны сцэнарый тэматычнага канцэрта (рэжысёр Л.А.Пархамчук). Абвешчаны конкурс творчых работ для навучэнцаў і выкладчыкаў — сачыненне, эсэ, верш, апавяданне, музычны твор, літаратурна-музычная кампазіцыя, тэматычны або паэтычны спектакль, твор жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, забаўляльная праграма, віктарына і г.д.

Першыя спробы пяра паступілі ўжо ў аргкамітэт. Гэта вершы Д.Кур'яновіча і Н. Халімон, сцэнарый літаратурнага спектакля М.Урбановіч, вершаваная паэма Л.Кебіч, песні на вершы Цёткі Г.Кебіча.

6 чэрвеня ў вучылішчы адбыўся конкурс чытальнікаў беларускіх твораў, прысвечаны памяці Цёткі. Вылучыліся актыўнасцю навучэнцы аддзялення рэжысуры народных святаў і абрадаў. Арганізатарам конкурсу не першы год з'яўляецца выкладчыца культуры мовы, неабыякавая да роднага слова і нацыянальнай культуры, працавіты чалавек Ганна Аляксандраўна Марушка, аўтар шматлікіх літаратурных кампазіцый камернага тыпу.

Запланавана арганізаваць пленэр навучэнцаў аддзялення "Дызайн" на радзіме паэткі ў вёсцы Пешчына Шчучынскага раёна, дзе пахавана Цётка. Два тыдні навучэнцы будуць пісаць эцюды, рабіць замалёўкі маляўнічых мясцін, аб якіх так хораша гаварыла пісьменніца.

Добрым пачынаннем сталі краязнаўчыя чытанні, удзел у якіх бралі навучэнцы і выкладчыкі. Падрыхтавалі гэтае мерапрыемства старшыня цыклавой камісіі агульнаадукацыйных дысцыплін І.І.Шалкевіч, выкладчык краязнаўства і музеязнаўства С.Ф.Гаўрылік.

На жаль, Цётцы не давялося доўга служыць роднаму краю. Яе жыццё абарвалася 11 лютага 1916 года. Усю сваю энергію і здольнасці яна аддала барацьбе за народнае шчасце, выхаванню моладзі. Праз 125 гадоў навучэнцы Гродзенскай вучэльні мастацтваў напісалі стрэчны ліст да Цёткі. Урывак з яго змешчаны на гэтай старонцы.

**Людміла Кебіч,**
**намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Гродзенскай вучэльні мастацтваў імя Цёткі.**

■ ЗАЗІРНЕМ У КАЛЯНДАР

# "ЛІЧУ СЯБЕ БЕЛАРУСКАЙ..."

Як вядомая дзеячка беларускага адраджэнцкага руху канца 19-га – пачатку 20-га стагоддзя ўвайшла ў гісторыю Беларусі буйная землеўласніца Марыя Магдалена Радзівіл.

Яна нарадзілася 8 ліпеня 1861 г. у Варшаве. Атрымала выдатную хатнюю адукацыю, выхоўвалася ў павазе да культуры і гісторыі беларускага народа. Пасля смерці бацькі, стала ўладальніцай шэрагу маёнткаў, у т. л. на Беларусі ( Кухцічы і Жарноўка ў Ігуменскім павеце). Займалася дабрачыннай дзейнасцю, у прыватнасці аказвала дапамогу ў будаўніцтве дзіцячага прытулку і шпіталя ў Мінску.

У 1906 г. выйшла замуж за князя Мікалая Радзівіла – вядомага знаўцу і збіральніка беларускага фальклору. Магдалена падтрымлівала першыя беларускія выдавецтвы "Загляне сонца і ў наша ваконца", "Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні", газеты "Наша ніва", "Беларус".

У Жарноўцы адкрыла беларускую школу. Для студэнтаў-беларусаў устанавіла стыпендыі. Яе дом у Мінску і палац у Кухцічах былі месцам сустрэч дзеячаў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Таму не выпадковай была заява Магдалены Радзівіл у 1912 г. у адной з мінскіх газет: "Лічу сябе беларускай... таксама як і мой муж, полькай жа зусім сябе не лічу".

Калі 25 сакавіка 1918 г. была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, стала яе вернай прыхільніцай. У канцы 1918 г. Магдалена Радзівіл была вымушана пакінуць Мінск і пераехаць у Варшаву. Нядобразычліва сустрэтая там польскім грамадствам, яна спрабавала зноў вярнуцца ў Мінск, але не здолела. У далейшым лёс кідаў Магдалену па розных краінах, пакуль канчаткова яна не ўладкавалася ў 1932 г. у Швейцарыі. Адсюль аказвала фінансавую дапамогу беларускім арганізацыям у Польшчы.

Памерла Магдалена Радзівіл 6 студзеня 1945 г. у Фрыбургу ў кляштары дамініканак. Споўнілася 140 гадоў з дня нараджэння гэтай выдатнай асобы.

# ГРОДНА МЕЎ МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА...

1-га ліпеня 1496 г. Вялікі князь Аляксандр надаў Гродна поўнае Магдэбургскае права. Сёлета спаўняецца 505 гадоў гэтай важнай падзеі ў жыцці горада.

Эканамічная дзейнасць, маёмасныя правы, грамадска-палітычнае жыццё, саслоўнае становішча гараджан рэгуляваліся ўласнай сістэмай юрыдычных нормаў, адпавядаўшых ролі гарадоў як цэнтраў рамеснага і таварна-грашовага абмену. Насельніцтва магло займацца рамесніцтвам, гандлем, земляробствам, выбіраць гарадскі орган улады – магістрат, суд, ствараць рамесныя аб'яднанні – цэхі. У руках магістрата была сканцэнтравана ўся ўлада. Яму не падпарадкоўваліся толькі жыхары юрыдыкаў – адміністрацыйна адасобленых частак горада, што знаходзіліся пад уладай і юрысдыкцыяй якога-небудзь феадала ці царкоўнай установы.

Горад вызваляўся ад гандлёвых выплат, меў права будаваць ратушу, праводзіць тры кірмашы на год. У гарадскую ўласнасць передаваліся сенакосы і ўваходы ў Азёрскае лясніцтва. Магістрату было загадана пабудаваць мельніцу на Нёмане, тры карчмы, лазню, каменны будынак для ўзважвання тавараў, васкабойню. Даходы ад працы гэтых устаноў паступалі ў гарадскі бюджэт.

Магдэбургскае права Гродна пацвярджалася ў 1502, 1541, 1561, 1564, 1576 г. і было адменена царскімі ўказамі пасля ўключэння заходняй часткі Беларусі ў склад Расійскай імперыі (1795). У 16 – першай палове 17-га ст. на Гродзеншчыне атрымалі Магдэбургскае права таксама Ваўкавыск (1503), Слонім (1531), Навагрудак (1511), Мір (1579), Ліда (1587), Любча (1590).

„КГ"

**(Паводле энцыклапедычнага даведніка "Гродна" і навукова-папулярнага выдання "Ці ведаеце вы гісторыю сваёй краіны?").**

# ЖЫТНЁВАЕ ПОЛЕ І ЗАМАК СУРОВЫ...



Мастак Кастусь Качан паходзіць з Навагрудчыны. Цяпер жыве ў Мінску, але часцяком бывае ў роднай вёсцы. Адбудаваў на бацькоўскім падворку дом. Другі паверх адвёў пад творчую майстэрню. Тут з'яўляюцца яго самыя знакамітыя работы. Тлумачыць, што талент жывяць землякі, спрадвечная сельская прырода, якой ніколі не пабачыш у горадзе...

Ён малюе блізкае сэрцу. Шмат пейзажаў – палі з жытам, дрэвы на ўскрайку, вёска, занесеная снегам, прасёлачныя дарогі, якія цягнуцца ўдалячынь, нібыта бясконцая мара мастака...

А яшчэ Кастусь Качан малюе старадаўнія цэрквы і касцёлы, пабудовы абарончага прызначэння, узведзеныя ў мінулыя стагоддзі продкамі. Падкрэслівае непарыўнасць адышоўшага і сучаснага. Іх лучыць наша гістарычная памяць.

Карціны сябра Саюза мастакоў Беларусі Кастуся Качана вылучаюцца цяплом. Магчыма, гэта ад сонечных прамянёў, светлых таноў, якімі напоўнены работы. Жыццясцвярджальнасць перадаецца наведвальнікам выставак. Дарэчы, мастак нядаўна ў другі раз за дзесяць гадоў выстаўляў свае жывапісныя палотны ў Гродне. Яны былі высока ацэнены наведвальнікамі галерэі "Тызенгауз".

**На здымку: д-р гіст. навук А.Краўцэвіч вітае мастака К. Качана (злева) у час адкрыцця выстаўкі.**

**Уладзімір Кавалёў**

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна. Ядрас: 230023 г. Гродна, п/с 22. Будзённага, 48-а,

Наклад 299 асобнікаў. Ядказны за выпуск Сцяпан Ярашчук. Дызайн і вёрстка Ядам Кір'яцкі

Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых супольнасцяў і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання "Ратуша"